Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Сувязь савецкіх органаў паміж сабой і масамі—аснова савецкага будаўніцтва.



# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР

15 САКАВІКА 1927 г.

№ 6 (31)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

---

## Частка афіцыйная.

Стар.

Стар.



## Частка неафіцыйная.



---

Зацьвярджаю.
Старшыня Эканамічнае Нарады
пры СНК БССР
М. Карклін.

## 1. Абавязковая пастанова Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР

### АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ РАСЦЭНАЧНЫХ АДЗІНАК ВАГІ.

У дадатак да абавязковых пастаноў Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі №№ 14 і 18 за 1926 год аб увядзеньні мэтрычнай сыстэмы, Міжведамственная Мэтрычная Камісія пры Эканамічнай Нарадзе БССР пастанаўляе:

1. У розьнічным гандлі на абшары БССР як дзяржаўным, капэрацыйным, так і прыватным, як у зачыненых памяшканьнях, так і ў палатках, з латкоў, на рынках і г. д. забараніць з 1 сакавіка 1927 г. ўжываньне расцэнак на прадаваемыя тавары ў 400 грам і 16 кілёграм.

2. Для тавараў тае катэгорыі, расцэнка якіх у старых мерах адносілася да фунта, увесьці расцэначную адзінку ў адзін кілёграм. Для гэтае катэгорыі тавараў дапусьціць расцэнку ў 500 і 100 грам.

*Увага.* Расцэнкі на долю кілёграму рабіць па дакладнаму арытмэтычнаму падліку з акругленьнем лічбаў толькі пры канчатковым разьліку.

3. Для тавараў, якія патрабуюць больш дробнай разьвескі ўстанавіць расцэнкі ў адзін грам, 10 грам і 100 грам па выбару гандлёвых прадпрыемстваў, у адпаведнасьці з катэгорыяй тавараў.

4. Для тавараў, якія прадаюцца ў раздроб і патрабуюць расцэнкі ў адзінках большых, як кілёграм, ужываць расцэнку, аднесеную да цэнтнэру і яго дзясятых доляй па выбару гандлёвага прадпрыемства.

5. Даручыць Народнаму Камісарыяту Гандлю БССР выдаць пастанову, якой абавязаць служачых у гандлёвых прадпрыемствах і гандляроў абвяшчаць пакупшчыкам фактычную вагу прадаваемых тавараў у мэтрычных мерах.

6. Служачыя, якія парушылі гэтую пастанову, падлягаюць адказнасьці па арт. 141 Крымін. Кодэксу, а прыватныя асобы—у адміністрацыйным парадку.

Старшыня Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі
пры Эканамічнай Нарадзе БССР **А. Каплан.**

Сэкратар Міжведамственнай
Мэтрычнай Камісіі **М. Варфман.**

9 лютага 1927 г.
№ 20.

Зацьвярджаю.
Старшыня Эканамічнае Нарады
пры СНК БССР. М. Карклін.

## 2. Абавязковая пастанова Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР

### АБ УВЯДЗЕНЬНІ МЭТРЫЧНАЙ СЫСТЭМЫ Ў БУХГАЛЬТАРСКІХ ЗАПІСАХ, РАХУНКОВЫХ І ВУЧОТНЫХ АПЭРАЦЫЯХ.

Міжведамственная Мэтрычная Камісія пры Эканамічнай Нарадзе БССР пастанаўляе:

1. Пераход на мэтрычную сыстэму ў бухгальтарскіх запісах, рахунковых і вучотных апэрацыях робіцца ў адпаведнасьці з тэрмінам пераходу на мэтрычную сыстэму паасобных відаў гаспадаркі, устаноўленых абавязковымі пастановамі Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР.

2. У адносінах галін гаспадаркі, дзе тэрміны пераходу на мэтрычную сыстэму яшчэ не ўстаноўлены, мэтрычная сыстэма ўводзіцца з пачатку новага справаздачнага году ва ўсіх відах бухгальтарскіх, крэдытных і банкаўскіх запісах. З моманту пераходу якой-небудзь гаспадарчай адзінкі на мэтрычную сыстэму прыём і водпуск тавараў у ёй павінны праводзіцца толькі пры дапамозе мэтрычных вымернікаў, задавальняючых правілам Галоўнай Палаты Мер і Вагі аб устанаўленьні мер даўжыні, ёмістасаці, гір і вагі.

3. Перавод якое-небудзь гаспадарчае адзінкі на мэтрычную сыстэму можа быць праведзен і раней, з 1-га дня кожнага месяцу, незалежна ад таго, ці робіцца перавод у пачатку або ў сярэдзіне бюджэтнага году, без падліку інвэнтару ў натуры з запісам вынікаў на 1-ы дзень месяца паралельна ў расейскіх і мэтрычных мерах.

4. Пасьля пераходу на мэтрычную сыстэму ўсе справаздачы, накладныя рахункі, каштарысы, прэйс-куранты, дагаворы, зьдзелкі і інш. дакумэнты складаюцца і прымаюцца толькі ў мэтрычных мерах. Цэны на тавары і матар'ялы, падлягаючыя абмеру, устанаўляюцца на мэтрычныя адзінкі.

Перавод цэн з якой-небудзь сыстэмы на мэтрычную сыстэму павінен праводзіцца такім парадкам, каб пасьля зваротнага пераводу вынікі сходзіліся з пачатковай сумай, у межах дапушчаемай дакладнасьці, устаноўленай ведамственным парадкам і ўзгодненай з Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіяй пры Эканамічнай Нарадзе БССР.

5. У бухгальтарскіх запісах, рахунковых і вучотных апэрацыях пры пераводзе з старых мер на мэтрычную сыстэму ўстановы і прадпрыемствы кіруюцца тымі асноўнымі мэтрычнымі адзінкамі ў прамысловасьці, гуртавым, паўгуртавым і раздробным гандлі, а таксама на транспарце, якія ўстаноўлены абавязковымі пастановамі Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР і абавязковымі пастановамі Цэнтральнага Мэтрычнага Камітэту пры Савеце Працы і Абароны № 28, апублікаванай у газэце „Экономическая Жизнь“ № 318 за 24/X—1924 г., і № 53, апублікаванай у газэце „Экономическая Жизнь“ № 21 за 27/I—1926 г.

Асноўныя мэтрычныя адзінкі ў прамысловасьці, гуртавым, паўгуртавым і раздробным гандлі, а таксама на транспарце—у адносінах тавараў, не пералічаных у паказаных пастановах, устанаўляюцца далейшымі пастановамі Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі пры Эканамічнай Нарадзе БССР.

6. Гэтая абавязковая пастанова пашыраецца на бухгальтарскія і

рахунковыя апэрацыі пры колькасным абмеры ў вытворчым вучоце і калькуляцыйных работах. Мэтрычныя стандартныя разьмеры, мэтрычныя асартымэнты, нармалі і г. д., а таксама адзначэньні якасьці тавараў у мэтрычных адзінках будуць устаноўлены собнымі абавязковымі пастановамі.

*Увага.* Пры атрыманьні матар'ялаў не мэтрычных асартымэнтаў у дакумэнтах пры прыёме паказваюцца прынятыя матар'ялы ў тых асартымэнтах, у якіх яны пададзены да прыёму, з абавязковым вызначэньнем агульнае вагі, ёмістасьці або іншай меры абавязкова ў мэтрычнай сыстэме ў залежнасьці ад таго, якімі адзінкамі данны матар'ял падлічваецца.

Старшыня Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі
пры Эканамічнай Нарадзе БССР **А. Каплан.**

Сэкратар Міжведамственнай Мэтрычнай Камісіі
пры Эканамічнай Нарадзе БССР **М. Варфман.**

4 сакавіка 1927 г.
г. Менск.

## 3. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Пошт і Тэлеграфаў СССР і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ ПРОДАЖУ СЕЛЬСКІМІ І МЕСТАЧКОВЫМІ САВЕТАМІ ЗНАКАЎ ПАШТОВАЙ АПЛАТЫ Ў БССР.

У выкананьне пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў СССР за 5 лістапада 1926 г. —„Аб продажу сельскімі і местачковымі саветамі знакаў паштовай аплаты" (З.З. СССР 1926 г. № 72, арт. 556) устанаўляецца наступны парадак абавязковага продажу знакаў паштовай аплаты сельскімі і местачковымі саветамі і ўзаемаадносіны па гэтым продажу паміж паказанымі саветамі і мясцовымі органамі Народнага Камісарыяту Пошт і Тэлеграфаў.

1. Сельскі або местачковы савет атрымлівае ў бліжэйшым паштовым (паштова-тэлеграфным) аддзяленьні ці агэнцтве непасрэдна ці праз сельскага пісьманосца аванс знакаў паштовай аплаты (паштовых марак і блянкаў); разьмер авансу ўстанаўляецца паштовым (паштова-тэлеграфным) аддзяленьнем ў адпаведнасьці з месячнай патрэбай.

2. Аб атрыманьні авансу сельскі або местачковы савет выдае расьпіску за подпісам старшыні і сэкратара з прыкладам пячаткі; адначасна з выдачай авансу сельскаму або местачковаму савету выдаецца ад імя аддзяленьня пасьведчаньне, у якім паказваецца разьмер авансу і продажны кошт блянкаў.

3. Сельскі або местачковы савет абавязан хаваць аванс знакаў паштовай аплаты і атрыманыя ад продажу марак і блянкаў грошы, як і іншыя сумы і каштоўнасьці сельскага або местачковага савету.

4. За атрыманы аванс знакаў паштовай аплаты сельскі або местачковы савет нясе адказнасьць перад паштова-тэлеграфным ведамствам у парадку, устаноўленым у адносінах іншых сум і каштоўнасьцяй сельскага або местачковага савету.

5. Пры перавыбарах сельскага або местачковага савету аванс знакаў паштовай аплаты павінен перадавацца новаму сельскаму або местачковаму савету ў парадку, устаноўленым для перадачы сум і каштоўнасьцяй сельскага або местачковага савету.

6. Маркі павінны прадавацца па паказанай на іх цане, а блянкі —па цане, паказанай у пасьведчаньні аб авансе, без якіх-бы то ні было наддаткаў.

7. Знакі паштовай аплаты павінны прадавацца ў сельскім або местачковым савеце, (або ў мясцох, устаноўленых сельскім або местачковым саветам: хаце-чытальні і г. д.), штодзённа ў рабочыя гадзіны; аб гэтым вывешваецца абвестка па наступнай форме: „Тут прадаюцца паштовыя маркі і блянкі".

8. Ня менш, як адзін раз у месяц, сельскі або местачковы савет абавязан на атрыманыя грошы папаўняць аванс знакаў паштовай аплаты, а пры адсутнасьці грошай паведамляць беспасрэдна аддзяленьне праз агэнта ці пісьманосца наступнай запіскай: „Продажу з такога па такі дзень месяца ня было,—подпісы"; для падліку продажу марак і блянкаў да пасьведчаньня аб авансе прыкладваецца чыстая папера, на якой сельскі або местачковы савет павінен адзначаць,—калі (дзень, месяц і год) і на якую суму грошай абменена марак і блянкаў па наступнай форме, напрыклад:—„23/XI 1926 году на 3 р. 50 к.".

9. Паштовыя (паштова-тэлеграфныя) аддзяленьні і агэнцтвы павінны дапамагаць сельскім або местачковым саветам пры выкананьні гэтай інструкцыі, а таксама ўстанавіць сыстэматычную праверку працы сельскіх або местачковых саветаў па продажу знакаў паштовай аплаты і паштовых блянкаў; з свайго боку сельскія або местачковыя саветы павінны дапушчаць бяз усякіх перашкод агэнтаў паштова-тэлеграфнага ведамства да праверкі авансу і своечасовага яго папаўненьня.

10. Пры парушэньні сельскімі або местачковымі саветамі гэтай інструкцыі паштовыя аддзяленьні і агэнцтвы павінны паведамляць раённыя выканаўчыя камітэты для прыняцьця адпаведных мер у дакладным выкананьні інструкцыі.

Намесьнік Народнага Камісара
Пошт і Тэлеграфаў СССР **Любовіч**.

Народны Камісар Унутраных Спраў
Беларускае ССР **А. Сташэўскі**.

28 лютага 1927 году.

---

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

АБ ПАРАДКУ ЎЖЫВАНЬНЯ ПАСТАНОВЫ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ І САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР за 29 мая 1926 г. АБ ГРАНІЧНЫМ РАЗЬМЕРЫ ПЕНІ ЗА НЕЎНЯСЕНЬНЕ Ў ТЭРМІН ПЛАТЫ ЗА КАРЫСТАНЬНЕ ЖЫЛЫМІ ПАМЯШКАНЬНЯМІ І ІНШЫМІ КАМУНАЛЬНЫМІ ПАСЛУГАМІ.

*Акруговым Выканаўчым Камітэтам БССР.*

Перад некаторымі Акруговымі Выканаўчымі Камітэтамі пры ўжываньні пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 29 мая 1926 г. аб граничным разьмеры пені за неўнясеньне ў тэрмін платы за карыстаньне жылымі памяшканьнямі і іншымі камунальнымі ўслугамі (З. З. БССР 1926 г. № 21, арт. 80) паўсталі наступныя пытаньні:

1) Пашыраецца гэта пастанова толькі на камунальныя памяшканьні ці і на прыватныя;

2) У якім парадку спаганяецца паказаная ў гэтай пастанове пеня: у судовым, ці адміністрацыйным;

3) Ці падлягаюць спагнаньню апрача пені і проценты за пропуск тэрміну.

Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў растлумачваюць:

1. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 29 мая 1926 г. аб гранічным разьмеры пені за неўнясеньне ў тэрмін платы за карыстаньне жылымі памяшканьнямі і іншымі камунальнымі ўслугамі пашыраецца толькі на камунальныя памяшканьні і не пашыраецца на памяшканьні прыватныя. За неўнясеньне ў тэрмін платы за карыстаньне прыватнымі жылымі памяшканьнямі, калі вынікі пропуску тэрміну не прадугледжаны дагаворам, спаганяюцца проценты, згодна арт. арт. 121 і 110 Грамадзянскага Кодэксу.

2. Паказаная ў памянёнай пастанове пеня, таксама як і асноўны доўг, калі наймальнік адмаўляецца дабравольна выплаціць яго, спаганяецца ў судовым парадку, пры гэтым пеня ва ўстаноўленым разьмеры спаганяецца ў тым выпадку, калі няма дагавору, або ў дагаворы не прадугледжан іншы вынік пропуску тэрміну.

3. Памянёную пеню трэба лічыць праўнай няўстойкай, якая спаганяецца замест процантаў. Спаганяць аднача сна і пеню і працанты магчыма толькі ў выпадках, калі гэта паказана ў дагаворы (увага 1 да арт. 141 Гр. Код.).

4. Паказаная ў пастанове за 29 мая 1926 г. пеня можа спаганяцца толькі ў тых выпадках, калі, на падставе паказанай пастановы ЦВК і СНК, гэтая пеня ўстаноўлена акруговым выканаўчым камітэтам.

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

22 лютага 1927 г.
№ 34/701.

---

## 5. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### АБ ПАВЕРЦЫ ПАДЛІКУ ЗАПАСНАГА ЗЯМЕЛЬНАГА ФОНДУ НА 1 КРАСАВІКА 1927 г.

*Акруговым Зямельным Аддзелам.*

Пададзеныя акруговымі зямельнымі аддзеламі данныя падліку зямель запаснага фонду вельмі часта пярэчаць адны другім. Так, напрыклад, па матар'ялах перавучоту, зробленаму на 1 красавіка 1926 г. і справаздачах па землянадзяленьню за летні пэрыяд 1926 г., на 1 красавіка 1926 г. павінна застацца 419 тыс. гэктараў запасных зямель, не патрабаючых зусім, ці патрабуючых невялікай мэліарацыі. Між тым, па данных акруговых зямельных аддзелаў, засталося неразьмеркаванымі на 1 красавіка 1926 г. толькі 311 тыс. гэкт. зямель запаснага фонду. З гэтага відаць, што лічба запаснага фонду зьменшылася на 108 тысяч гэктараў.

Некаторыя акругов. зямельн. аддзелы даюць хоць і няпоўнае тлумачэньне прычын зьмяншэньня, а некаторыя гэтага зусім ня тлумачаць.

Апроч гэтага, лічбы запаснага фонду, пададзеныя па лініі земляўпарадчых устаноў, розьняцца ад лічбаў, якія падаюццаляснымі органамі і органамі аддзелу дзяржаўных зямельных маемасьцяй.

Бяручы ўсё гэта пад увагу, Народны Камісарыят Земляробства прапануе:

1. У бягучы зімовы пэрыяд зрабіць паверку падліку запаснага фонду з тым, каб праверaныя данныя былі пададзены ў Народны Камісарыят Земляробства да 1 красавіка 1927 г.

2. Паверку падліку трэба рабіць камэральным парадкам, не перадаючы работы ў раённыя выканаўчыя камітэты. У выключных выпадках, калі ў распараджэньні акруговага зямельнага аддзелу ня будзе выстарчальнага матар'ялу для праверкі, да працы трэба прыцягнуць раённых землеўпарадчыкаў або работнікаў па землянадзяленьню.

3. Не рабіць новага перапісу гаспадарак, падлягаючых абрэзцы, а таксама і надзяленьню, а карыстацца даннымі мінулага году, унёсшы ў іх папраўкі, згодна вынікаў работ па землянадзяленьню і землеўпарадкаваньню.

4. У зьвязку з тым, што разьмеркаваньне нязначных плошчаў будзе праводзіцца сіламі сельскіх саветаў, пры праверцы падліку патрэбна высьветліць прыблізную плошчу ляснога фонду, дзяржаўных зямельных маемасьцяй і пакінутых зямель, якая можа быць сельскімі саветамі разьмеркавана як прырэзкамі, так і з арганізацыяй груп хутароў ня больш 5. Таксама трэба асобна высьветліць плошчу абрэзак ад цераспалосных гаспадарак.

5. У тлумачальнай запісцы паказаць асобна плошчу, якая была ляснымі органамі пералічана ў зямельны фонд праз замену з сялянствам на працоўнае землякарыстаньне, а таксама і тую, што была разьмеркавана, як запасны фонд пры землеўпарадчых работах, а не пры землянадзяленьні. Апроч гэтага трэба ў тлумачальнай запісцы прыблізна вызначыць тую плошчу, якая пералічана з ляснога фонду дробнымі вучасткамі да 6 гэктараў і да гэтага часу не замацавана за землякарыстальнікамі.

6. Бяручы пад увагу, што абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства № 5– 1926 г. аб ахове працоўнага землякарыстаньня замацаваў за сялянствам тыя плошчы, якія былі асвоены да выданьня асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні, а таксама і тыя, якія былі дадзены пастановамі зямельных камісій, належыць на падставе гэтага ўнесьці папраўкі як у лічбы запаснага фонду, так і ў лічбы грамадзян, падлягаючых землянадзяленьню.

7. Матар'ялы паверкі павінны быць абавязкова разгледжаны ў плянава-тэхнічнай нарадзе, якая павінна вынесьці свой погляд аб адпаведнасьці лічбаў сапраўднаму становішчу і ў паасобку па пытаньні аб тым, якая плошча можа быць разьмеркавана бяз удзелу землеўпарадчыкаў.

8. Зьвесткі ў Народны Камісарыят Земляробства падаюцца па форме, якая да гэтага прыкладаецца, пры асобнай тлумачальнай запісцы, у якой павінны быць зазначаны прычыны зрабіўшыя ўплыў на зьмяншэньне або павялічэньне лічбаў па кожнай катэгорыі запаснага фонду.

9. Для поўнае ўвязкі данных ведамасьць і тлумачальная запіска павінны быць падпісаны апроч загадчыка акруговага зямельнага аддзелу і загадчыкам пададдзелу мэліарацыі, загадчыкам ляснога пададдзелу і загадчыкам пададдзелу дзяржаўнае зямельнае маемасьці.

10. З выданьнем гэтага абежніку траціць сілу абежнік № 7 за 21 лютага 1925 г., інструкцыя за 21 лютага 1925 г. аб вучоце запаснага фонду і абежнік № 4 за 6 студзеня 1926 г.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Начальнік Кіраўніцтва Дзяржаўных Зямельных Маемасьцяй, Мэліарацыі і Землеўпарадкаваньня НКЗ **А. Шычко.**

# ПЛОШЧА ПАКАЗВАЕЦЦА Ў ГЭКТАРАХ.

| №№ па чарзе. | Назва раёну. | Колькі ёсьць гаспадарак, падлягаючых надзяленьню і колькі зямлі ў іх | | Колькі трэба зямлі для надзяленьня іх па поўнай мінімальнай норме. | Колькі ёсьць гаспад., падлягаючых абрэзцы і плошча зямлі | | ПЛОШЧА ЗЯМЕЛЬ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | Пералічаных з ляснога фонду | | | Пералічаных з дзярж. зям. маемасьцяй | | |
| | | Лік гаспадарак | Плошча зямлі | | Лік гаспадарак | Плошча зямлі | Выгаднай | Патрабуюч. павярхоўнай мэліарацыі | Патрабуюч. грунтоўнай мэліарацыі. | Выгаднай | Патрабуюч. павярхоўн. мэліарац. | Патрабуюч. грунт. мэліарац. |
| | | Цераспалос. | Цераспалос. | | Цераспалос. | Цераспалос. | | | | | | |
| | | Хут. | Хут. | | Хут. | Хут. | | | | | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | | | | | | | | | | | |

| ЗАПАСНАГА ФОНДУ | | | | | | Па ўсіх катэгорыях | | | УСЯГО. | Зямельны дэфіцыт складаецца пры ўмове разьмеркаваньня | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ад абрэзак | | | Іншых | | | | | | | | | |
| Выгаднай | Патрабуюч. павярхоўн. мэліарац. | Патрабуюч. грунт. мэліарац. | Выгаднай | Патрабуюч. павярхоўнай мэліарацыі | Патрабуюч. грунтоўнай мэліарацыі | Выгаднай. | Патрабуюч. павярхоўнай мэліарацыі | Патрабуюч. грунт. мэліар. | | Толькі выгаднай. | Выгаднай і патрабуючай павярхоўн. мэліарацыі. | Усіх выгадных і нявыгадных. |
| Цераспалосных | | | | | | | | | | | | |
| Хутарскіх | | | | | | | | | | | | |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | | | | | | | | | | |

**6. Дапаўненьне да арт. 15 выданых Народным Камісарыятам Земляробства і Народным Камісарыятам Унутраных Спраў БССР за 11 верасьня 1926 г. „Правіл аб вэтэрынарна-санітарным наглядзе за кірмашамі, базарамі, выстаўкамі і гандлем сырымі жывёлавымі прадуктамі на тэрыторыі БССР“, надрукаваных у № 12 (21) Бюлетэню СНК БССР за 1926 г.**

У арт. 15 правіл „аб вэтэрынарна-санітарным наглядзе за кірмашамі, базарамі, выстаўкамі і гандлём сырымі жывёлавымі прадуктамі на тэрыторыі БССР, пасьля слоў „выкладзеных правіл“ дадаць словы „і ў сапрацыўленьні да правядзеньня іх у жыцьцё“.

Пасьля гэтай папраўкі памянёны арт. 15 павінен атрымаць наступную рэдакцыю: „Арт. 15. Асобы, вінаватыя ў парушэньні выкладзеных правіл і ў сапрацыўленьні да правядзеньня іх у жыцьцё, падлягаюць адказнасьці ў парадку арт. арт. 86 і 219 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Ц. Каровікаў.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Начальнік Вэтэрынарнага Кіраўніцтва НКЗ БССР **П. Серпаў.**

28 лютага 1927 г.

---

**7. Пастанова Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю і Народнага Камісарыяту Земляробства БССР**

АБ УЗМАЦНЕНЬНІ ФАКТЫЧНАГА КАНТРОЛЮ ЗА ВЫКАНАНЬНЕМ ПАСТАНОВЫ ЦВК БССР ЗА 9 ВЕРАСЬНЯ 1923 г. АБ УРЭГУЛЯВАНЬНІ ГАНДЛЮ НАСЕНЬНЕМ.

На падставе пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР за 9 верасьня 1923 г. аб урэгуляваньні гандлю насеньнем п. п. „в“, „д“, і „м“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Замежнага і Ўнутранага Гандлю БССР, для ўзмацненьня фактычнага кантролю за выкананьнем памянёнай пастановы ЦВК БССР, выданае ў мэтах задаваленьня насяленьня насеньнем добрае якасьці, Народны Камісарыят Замежнага і Ўнутранага Гандлю і Народны Камісарыят Земляробства п а с т а н а ў л я ю ц ь:

1. Усе ўстановы і прадпрыёмствы, як дзяржаўныя, каапэрацыйныя, так і прыватныя, якія гандлююць насеньнем, павінны зарэгістравацца і атрымаць рэгістрацыйную картку.

2. Рэгістрацыю паказаных у п. 1-м установаў і прадпрыёмстваў ускласьці на акруговыя зямельныя аддзелы і раённыя выканаўчыя камітэты.

Гандляры насеньнем у акруговых гарадох БССР рэгіструюцца ў акруговых зямельных аддзелах, а гандлюючыя ў раёнах—у адпаведных раённых выканаўчых камітэтах.

У заявах аб рэгістрацыі павінны быць паказаны: а) месца знаходжаньня пункту (складу) гандлю насеньнем, б) асоба, упаўнаважаная і адказная за гандаль насеньнем.

3. Рэгістрацыя гандляроў насеньнем павінна быць скончана да 1 сакавіка 1927 г.

*Увага*. Гандаль насеньнем, які будзе адчынены пасьля паказанага тэрміну, таксама падлягае рэгістрацыі; зарэгістра-

ваньне ў 1926 г. не звальняе гандляроў насеньнем ад рэгістрацыі, паводле гэтае пастановы.

4. Гандляры насеньнем абавязаны прадаваць толькі такое насеньне, якое задавальняе па якасьці наступным умовам: а) па якасьці ў адносінах чыстаты, усхожасьці і гаспадарчай годнасьці—ня ніжэй устаноўленых пастановамі ЦВК і Н.К. Земляробства кандыцый для насеннага матар'ялу; б) адпавядаць тым сартом, пад назваю якіх гэты насенны матар'ял прадаецца.

Увесь насенны матар'ял, які прадаецца гандлярамі насеньнем, павінен быць праверааны за іх кошт у адносінах якасьці і мець належныя пасьведчаньні кантрольна-насенных станцый Н.К. Земляробства або Дзяржаўнае Хлебнае Інспэкцыі па правядзеньні аналізу.

5. Для фактычнага кантролю за якасьцю прадаваемага насеннага матар'ялу зямельныя аддзелы і раённыя выканаўчыя камітэты выдзяляюць асобныя кантрольныя камісіі з увядзеньнем у склад іх адпаведных спэцыялістых.

У задачы камісіі ўваходзіць: а) агляд насеннага матар'ялу ў мясцох яго продажу і хаваньня; б) выемкі проб і правядзеньне аналізу насеньня ў неабходных выпадках; в) складаньне належных актаў і пратаколаў.

*Увага*. Кантрольным камісіям даецца права да правядзеньня аналізу ўзятых проб забараняць продаж насеньня, калі яно па надворнаму выгляду (паху, колеру) здаецца недабраякасным.

У сваёй тэхнічнай працы камісія карыстаецца спэцыяльным апаратам кантрольна-насенных станцый Н.К. Земляробства і хлебнае інспэкцыі, якімі робяцца па даручэньні камісіі работы па правядзеньню аналізаў і дачы кансультацый.

Склад камісіі і парадак іх працы ўстанаўляюцца спэцыяльнай інструкцыяй, якая выдаецца Н.К. Земляробства.

6. Пры выяўленьні продажу і хаваньня ў гандлёвых памяшканьнях насеньня, не адпавядаючага ўстаноўленым кандыцыям, а таксама за фальсіфікацыю насеннага матар'ялу, падмену неадпавядаючымі продажным назвам сартамі, паказаны насенны матар'ял зьнімаецца з продажу і ліквідуецца па паказаньнях камісіі, а вінаватыя асобы, установы і прадпрыемствы прыцягваюцца да крымінальнае адказнасьці, паводле пастановы ЦВК БССР за 7 верасьня 1923 г., паводле арт. арт. 190 і 192 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Замежнага і Ўнутранага Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Ц. Каровікаў.**

12 лютага 1927 г.

---

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю БССР

АБ ЗЬМЕНЕ ПАСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЗАМЕЖНАГА І ЎНУТРАНАГА ГАНДЛЮ БССР ЗА 3 ЛЮТАГА 1927 г. ЗА № 1 АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ ЦЬВЁРДЫХ ПРОДАЖНЫХ ЦЭН НА ХЛЕБ У ЛЁНАВОДНЫХ ПУНКТАХ БССР.

Згодна загаду Народнага Камісарыяту Замежнага і Ўнутранага Гандлю СССР за 4 лютага г. г. № 17 аб зьніжэньні продажных цэн на хлеб, Народны Камісарыят Замежнага і Ўнутранага Гандлю БССР пастанаўляе:

1. З 5 лютага 1927 г. ўстанавіць гуртавую продэжную гранічную цану на жытнюю муку простага памолу франка-вагон на ўсякай станцыі назначэньня БССР ў 8 р. 20 к. за цэнтнэр *).

2. У зьмену п. 1 памянёнай пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 3 лютага 1927 г. за № 1, устаноўленая апошнім раздробная гранічная цана на жытнюю муку простага памолу ў зазначаных ніжэй лёнаводных пунктах БССР зьніжаецца з 10 лютага 1927 г. да наступных разьмераў:

| Назва акругі | Назва мясцовасьці | Цана за цэнтнэр. |
|---|---|---|
| Віцебская | Гарадок . . . . . . . . . | 9 р. 07 кап. |
| | Сіроціна . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Ліозна . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Колышкі . . . . . . . . | 9 „ 44 „ |
| | Язерышча . . . . . . . . | 9 „ 44 „ |
| | Сенна . . . . . . . . . . | 9 „ 74 „ |
| | Янавічы . . . . . . . . . | 9 „ 74 „ |
| | Сураж . . . . . . . . . | 9 „ 74 „ |
| Полацкая | Дрыса . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Валынцы . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Расона . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Росіца . . . . . . . . . | 9 „ 31 „ |
| | Асьвея . . . . . . . . . | 9 „ 74 „ |
| Магілёўская | Шклоў . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Быхаў . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Чавусы . . . . . . . . . | 9 „ 74 „ |
| Ар шанская | Ворша . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Талачын . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Дуброўна . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Горкі . . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Ляды . . . . . . . . . . | 9 „ 31 „ |
| Калінінская | Крычаў . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Касьцюковічы . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Мсьціслаў . . . . . . . . | 9 „ 44 „ |
| Барысаўская | Лепель . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |
| | Бобр . . . . . . . . . . | 9 „ 07 „ |

Нам. Народнага Камісара Замежнага і Ўнутранага Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Нач. Кіраўніцтва Рэгуляваньня Н. К. Замежнага і Ўнутранага Гандлю БССР **Л. Кізіла.**

16 лютага 1927 г.
№ 3.

*) Цэнтнэр—100 кілёграм.

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Замежнага і Унутранага Гандлю і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

АБ АБАВЯЗКОВЫМ АТРЫМАНЬНІ ДАЗВОЛУ АД ОРГАНАЎ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ГАНДЛЮ НА ПАБУДОВУ НОВЫХ МЛЫНОЎ, А ТАКСАМА НА ПЕРААБСТАЛЯВАНЬНЕ І КАПІТАЛЬНЫ РАМОНТ ІСНУЮЧЫХ МЛЫНОЎ.

Згодна пастановы Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 15 верасьня 1926 г. Народныя Камісарыяты Замежнага і Унутранага Гандлю і Унутраных Спраў БССР пастанаўляюць:

1. Асобы, якія будуюць новы млын, або робяць пераабсталяваньне існуючага млыну з простага памолу на сартавы, а таксама асобы, якія робяць капітальны рамонт млыну з заменай рухавіка, і іншых машын без належнага дазволу ва ўстаноўленым вышэйзазначанай пастановай парадку, падлягаюць адказнасьці паводле арт. 219 Крым. Кодэксу.

2. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты і акруговыя органы Народнага Камісарыяту Гандлю.

Нам. Народнага Камісара Замежнага і Унутранага Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Е. Кроль.**

18 лютага 1927 г.
№ 6.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ НАГЛЯДЗЕ ЗА ПРАВІЛЬНЫМ ВЫРАШЭНЬНЕМ КАНФЛІКТАЎ, ВЫНІКАЮЧЫХ ПРЫ ЎЖЫВАНЬНІ ДАПАМОЖНАЙ НАЁМНАЙ ПРАЦЫ Ў СЯЛЯНСКІХ ГАСПАДАРКАХ.

Аднэй з важных задач у рабоце Камэр Інспэкцыі Працы зьяўляецца нагляд за правільным вырашэньнем спрэчак, якія ўзьнікаюць пры ўжываньні дапаможнай наёмнай працы ў сялянскіх гаспадарках.

У зьвязку з гэтым Народны Камісарыят Працы БССР, у дадатак да ўвагі 2-ое п. 2 Інструкцыі Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР за 22 сьнежня 1926 г. № 21 аб форме і парадку рэгістрацыі раённымі выканаўчымі камітэтамі працоўных канфліктаў (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г. № 2) прапануе:

Камэры і Аддзелы Працы, заўважыўшы ў пратаколах Міравых Камісій парушэньні законаў і загадаў аб працы або ўстаноўленых для міравых камісій працэсуальных правіл, адначасна з накіраваньнем копій гэтых пратаколаў у Народны Камісарыят Працы БССР павінны рабіць раённым выканаўчым камітэтам адпаведныя паказаньні аб спыненьні заўважаных недахватаў з тлумачэньнем дзейнічаючых законаў і загадаў аб працы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Заг. Тарыфна-Канфл. Аддзелу НКП **С. Гольдберг.**

Заг. Агульнага Аддзелу НКП **І. Акулаў.**

7 лютага 1927 г.
№ 37.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ДАПАЎНЕНЬНІ РАШЭНЬНЯЎ, ПРЫНЯТЫХ НАРОДНЫМІ СУДАМІ ПА СПРАВАХ АБ УСТАНАЎЛЕНЬНІ ПРАЦОЎНАГА СТАЖУ, КАМІСІЯМІ, УТВОРАНЫМІ ДЛЯ ЎСТАНАЎЛЕНЬНЯ ГЭТАГА СТАЖУ.

У зьвязку з выданьнем Саветам Сацыяльнага Страхаваньня пры Народным Камісарыяце Працы БССР інструкцыі за 30/VI—1925 г. аб парадку назначэньня пэнсіі (Бюл. СНК 1925 г. № 3), і перадачаю спраў па ўстанаўленьні працоўнага стажу з веданьня Народных Судоў у Камісіі пры Акруговых Страхавых касах (Пастанова ЦВК і СНК БССР за 29/V—1925 г. (З. З. БССР № 29, арт. 279), выявілася, што рашэньні Народных Судоў часта няпоўны, не ўстанаўляюць усіх акалічнасьцяй, патрэбных для назначэньня пэнсіі, і не задавальняюць усіх патрэб, якія паказаны ў інструкцыі аб парадку назначэньня пэнсій.

З гэтае прычыны Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Юстыцыі БССР пастанаўляюць:

1. Рашэньні Народных Судоў па ўстанаўленьні працоўнага стажу, якія ўвайшлі ў законную сілу, могуць быць адменены ў парадку нагляду парадкам, які ўстаноўлены законам.

2. У выпадку нездавальняючых акалічнасьцяй і фактаў па працоўнаму стажу, устаноўленых рашэньнем народных судоў для назначэньня пэнсіі, паводле інструкцыі Народнага Камісарыяту Працы БССР за 30/VI—1926 г., Камісіі па ўстанаўленьні працоўнага стажу пры акруговых страхавых касах, могуць прымаць свае дадатковыя рашэньні па акалічнасьцях і фактах, якія не ўстаноўлены рашэньнем народнага суду і якія патрэбны для назначэньня пэнсіі.

Камісіі пры акруговых страхавых касах у гэтых выпадках дзейнічаюць на агульных асновах, паводле інструкцыі Народнага Камісарыяту Працы БССР за 15/X—1925 г. аб парадку ўстанаўленьня працоўнага стажу інвалідаў працы (З. З. БССР 1925 г. № 42, арт. 353).

3. У выпадках, калі акалічнасьці і факты па працоўнаму стажу інваліда, якія ўстаноўлены рашэньнем народнага суду, адпаведнымі страхавымі органамі будуць прызнаны нездавальняючымі для назначэньня пэнсіі, і дадаткова нездавальняючыя акалічнасьці ня будуць устаноўлены камісіямі па ўстанаўленьні працоўнага стажу—страхавыя органы, якія назначаюць пэнсію, могуць адмовіць зацікаўленым асобам у назначэньні яе.

Народны Камісар Працы БССР **С. Ерафееў.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Г. Нямытых.**

Начальнік Галоўнага Кіраўніцтва
Сацыяльнага Страхаваньня НКП БССР **Р. Алесін.**

24 лютага 1927 г.

---

## 12. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАРАДКУ РЭГІСТРАВАНЬНЯ Ў ОРГАНАХ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ПРАЦЫ АСАБОВЫХ ПРАЦОЎНЫХ ДАГАВОРАЎ.

У зьвязку з атрыманымі запытаньнямі аб парадку рэгістрацыі асабовых працоўных дагавораў, Народны Камісарыят Працы БССР тлумачыць, што:

Рэгістравацца у органах Народнага Камісарыяту Працы БССР павінны абавязкова толькі працоўныя дагаворы са спэцыялістымі, якія дагаворы робяцца на падставе пастановы Савету Працы і Абаровыя за 2/XI—1923 г. „аб парадку устанаўленьня асабовых акладаў і асобных узнагарод за выкананьне спэцыяльных заданьняў работнікамі дзяржаўных органаў і акцыйных мяшаных таварыстваў з пераважным дзяржаўным капіталам“ (Збор. Зак. і Загад. СССР за 1924 г., № 11, арт. 90, Известия НКП СССР за 1923 г. № 11 (35).

Іншыя асабовыя працоўныя дагаворы ў органах Народнага Камісарыяту Працы не рэгіструюцца.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Заг. Тарыфна-Канфл. Аддз. НКП **С. Гольдберг.**

Заг. Агульн. Аддзелу НКП **І. Акулаў.**

25 лютага 1927 г.
№ 39.

---

## 13. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ЗАХАВАНЬНІ РАБОЧЫМІ І СЛУЖАЧЫМІ СВАЙГО ЗАРАБОТКУ ЗА ЧАС ВЫКАНАНЬНЯ ІМІ АБАВЯЗКАЎ, ЗЬВЯЗАНЫХ З ВАЙСКОВАЙ СЛУЖБАЮ.

Пры перавучоце вайскова-павінных, які цяпер праводзіцца, зазначаны выпадкі, калі прадпрыемствы, установы і гаспадаркі вылічваюць з заработнай платы рабочых і служачых за час, які яны патрацілі на яўку ва ўстановы вайсковага ведамства для вучоту, рэгістраваньня і выкананьня іншых абавязкаў, зьвязаных з вайсковаю службаю.

Такія вылікі зьяўляюцца няправільнымі і супярэчаць працоўнаму законадаўству СССР.

З гэтае прычыны Народны Камісарыят Працы БССР растлумачвае, што:

1. За рабочымі і служачымі, якія выкліканы па патрабаваньні адпаведных установаў вайсковага ведамства па справах, зьвязаных з вайсковаю службаю, захоўваецца іх сярэдні заработак.

2. Гэтае тлумачэньне ўваходзіць у дзейнасьць з 1 студзеня 1927 году.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Час. вык. аб. Заг. Тарыфна-
Канфл. Аддзелу НКП **С. Мышалаў.**

За Заг. Агульн. Аддзелу **Т. Жылінскі.**

2 сакавіка 1927 г.
№ 41.

---

## 14. Апека і папячыцельства паводле новага Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы.

IV Сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР VII скліканьня, якая скончылася 28 студзеня г. г. зацьвердзіла Кодэкс Закону аб шлюбе, сям'і і апецы, з увядзеньнем у дзейнасьць з 1-га сакавіка 1927 г.

У разьдзеле 4-м гэтага Кодэксу зьмешчаны правілы аб апецы і папячыцельстве. Правілы гэтыя шмат адрозьніваюцца ад старага Кодэксу, таму і пажадана пазнаёміць чытачоў Бюлетэню з асновамі новых пастанаўленьняў аб апецы і папячыцельстве.

### Над якімі асобамі ўстанаўляюцца апека і папячыцельства.

а) Апека ўстанаўляецца над асобамі непаўналетнімі да 14 год, над душэўна-хворымі і над слабымі розумам, гэта значыць—над такімі асобамі, якія ня могуць клапаціцца аб сваёй асобе і маемасьці. Каб такія асобы ня былі пакінуты без дапамогі, дзяржава арганізуе паасобныя органы, якія клапоцяцца аб асобнай маемасьці нядзеяздольных. Апякуны ажыцьцяўляюць правы і выконваюць абавязкі ад імя і ў інтарэсах падапечнага, самі-ж падапечныя ніякіх актаў або дагавораў і г. д. ня робяць.

Апека ўстанаўляецца таксама над маемасьцю памёршага, або няма ведама куды дзеўшагася.

б) Але бываюць выпадкі, калі асоба дзеяздольная і толькі па сваім фізычным або псыхічным стане ня можа самастойна абараняць свае правы і інтарэсы. Такія асобы, а таксама непаўналетнія, старэйшыя 14 год, і марнатраўцы могуць ажыцьцяўляць свае правы, але над імі ўстанаўляецца папячыцельства, якое павінна ім дапамагаць пры ажыцьцяўленьні іх праў і пры выкананьні іх абавязкаў, а таксама ахоўваць іх ад злоўжываньняў трэціх асоб.

### Органы апекі і папячыцельства.

Бацькі і усынавіцелі прызнаюцца апякунамі або папячыцелямі сваіх непаўналетніх дзяцей без спэцыяльнага назначэньня. Толькі па суду яны могуць быць адсунуты ад апекі або папячыцельства ў выпадках, паказаных у законе (пазбаўленыя бацькаўскіх праў або праў наогул, даўжнікі, крэдыторы, або такія асобы, інтарэсы якіх супярэчаць інтарэсам дзяцей).

Кожны з бацькоў мае права ў адказаньні або ў асобным заяўленьні на імя органу апекі паказаць апякуна або папячыцеля над асобаю і маемасьцю непаўналетніх дзяцей.

Калі бацькоў няма, апякуны і папячыцелі назначаюцца органамі апекі і папячыцельства.

Органамі апекі і папячыцельства зьяўляюцца:

а) у сельскіх мясцовасьцях—прэзыдыумы сельскіх саветаў;

б) у мястэчках—прэзыдыумы местачковых саветаў і

в) у гарадох—прэзыдыумы гарадзкіх саветаў.

Скаргі і пратэсты па апякунскіх справах падаюцца:

1) у прэзыдыумы раённых выканаўчых камітэтаў—на пастановы і дзеяньні ўсіх апякунскіх установ, за выключэньнем прэзыдыумаў гарадзкіх саветаў акруговых гарадоў і

2) у прэзыдыумы акруговых выканаўчых камітэтаў—на пастановы і дзеяньні прэзыдыумаў гарадзкіх саветаў акруговых гарадоў.

Пры гэтым трэба адзначыць, што прэзыдыум акруговага выканаўчага камітэту мае права агульнага кіраваньня і нагляду за дзейнасьцю апякунскіх установ акругі.

Такім чынам сыстэма апякунскіх установ проста і прыступна для грамадзян.

Абавязкі органаў апекі наступныя: устанаўленьне, ажыцьцяўленьне і зьняцьце апекі і папячыцельства, назначэньне, звальненьне і адхіленьне апякуноў і папячыцеляў, нагляд за іх дзейнасьцю, разгляд і зацьверджаньне інвэнтароў і справаздач, якія падаюцца апякунамі і папячыцелямі.

Органы апекі ажыцьцяўляюць апеку праз апякуноў і папячыцеляў, якіх назначаюць пераважна з асоб, блізкіх падапечнаму, альбо з асоб, вылучаных прафэсіянальнымі арганізацыямі, сялянскімі таварыствамі ўзаемадапамогі і г. д.

## Устанаўленьне і зьняцьце апекі і папячыцельства.

Орган апекі ў тым месцы, дзе жыве асоба, над якою патрэбна апека або папячыцельства, пастанаўляе аб устанаўленьні апекі або папячыцельства не пазьней, як праз 2 тыдні з таго моманту, калі даведаецца аб патрэбе ўстанаўленьня апекі.

Апека над душэўна-хворымі і слабымі на розум устанаўляецца толькі пасьля прызнаньня гэтых асоб нядзеяздольнымі ў паасобным парадку, які вызначаны ў дадатку да арт. 99 Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы.

Даведаўшыся аб душэўнай хваробе або аб слабасьці на розум якой-небудзь асобы, якая пражывае ў раёне дзейнасьці органу апекі, апошні мае права падняць пытаньне аб прызнаньні хворага слабым на розум або душэўна-хворым. Але ўстанавіць апеку ён можа толькі пасьля атрыманьня пастановы камісіі (гл. арт. 10 дадатку да кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы).

Папячыцельства над марнатраўцамі ўстанаўляецца пасьля прызнаньня іх судом абмежаванымі ў дзеяздольнасьці.

Апека над маемасьцю ўстанаўляецца пастановаю суду ў наступных выпадках:

а) над маемасьцю невядома дзе адсутнага—аж да яго зьяўленьня або прызнаньня яго прапаўшым;

б) над маемасьцю памёршага—аж да прыняцьця яе насьледнікамі або дзяржаваю.

Такім чынам, не атрымаўшы пастановы суду орган апекі (напр., прэзыдыум сельскага савету) ня мае права ўстанавіць апеку над маемасьцю адсутнага або памёршага, або папячыцельства над марнатраўцам.

Апеку або папячыцельства над непаўналетнімі орган апекі ўстанаўляе як па ўласным яго пачыну, так і па заяўленьні ўстаноў або грамадзян, як толькі атрымае паведамленьне аб патрэбе ўстанаўленьня іх.

Такія паведамленьні павінны даваць у орган апекі (г. зн. на сяле—у прэзыдыум сельскага савету) у 3-х дзённы тэрмін:

1) кроўныя асобы, належачай да апекі, а таксама асобы, зьвязаныя з ёю супольнасьцю гаспадаркі (напр., члены двара або калектыву);

2) домакіраўніцтвы, уласьнікі і арандатары дамоў, дзе пражываюць непаўналетнія;

3) органы ЗАГС, калі пры рэгістрацыі імі памёршых будзе вядома ім аб пакінутых без папячэньня непаўналетніх;

4) судовыя органы і міліцыя, а таксама судовыя выканаўцы, калі ім вядома аб неабходнасьці ўстанаўленьня апекі.

Прэзыдыумы сельскіх саветаў павінны памятаваць, што апека або папячыцельства над непаўналетнімі членамі двара можа быць установлена толькі ў тым выпадку, калі ў складзе двара застануцца толькі непаўналетнія (арт. 68 Зямельнага Кодэксу).

Што датычыцца папячыцельства над дзеяздольнымі, то орган апекі можа яго ўстанавіць або па яго ўласным хадайніцтве, або па просьбе яго кроўных ці блізкіх, або па пачыну дзяржаўных органаў і грамадзкіх арганізацый, у выпадках старчай друзласьці, хворасьці, фізычных недахватаў і іншых прычын, якія перашкаджаюць асобе належным чынам весьці свае справы або абараняць свае інтарэсы.

Нарэшце, папячыцельства можа быць установлена і для ўчыненьня паасобных дзеяньняў у наступных выпадках:

а) калі ёсьць патрэба на ўтварэньне якога-небудзь дзеяньня бацькамі або апякунамі ў якасьці законных прадстаўнікоў непаўналетніх дзяцей і падапечных, але паказаныя асобы па хваробе або іншых прычынах ня маюць магчымасьці зрабіць гэтага дзеяньня;

б) калі інтарэсы апякуна ў тым ці іншым асобным выпадку супярэчаць інтарэсам падапечнага;

в) калі дзеяздольная асоба з прычыны адсутнасьці, хваробы або іншых важных прычын ня можа дзейнічаць ні асабіста ні праз прадстаўніка ў справе, якая ня можа быць адкладзена.

Апека зьнімаецца:

а) над асобаю—у выпадку сьмерці апякаемага, або калі зьнікла прычына ўстанаўленьня апекі (асоба стала паўналетняй, здаровай, або прызнана судом дзеяздольнаю);

б) над маемасьцю—пасьля зьяўленьня адсутнага ці пасьля прыняцьця спадчыны.

Калі ўстанаўляецца апека, апякунская ўстанова павінна, папершае, выявіць разьмер і кошт маемасьці; для гэтага член органу апекі павінен у месцы знаходжаньня маемасьці, пры двух сьведках зрабіць інвэнтар або опіс у 2 экзэмплярах.

## Назначэньне і звальненьне апякуноў.

Орган апекі назначае апякуноў і папячыцеляў з ліку грамадзян, не пазбаўленых выбарчых або бацькаўскіх праў або праў па суду. Нельга назначыць апякуном таксама такую асобу, інтарэсы якой супярэчаць інтарэсам асоб, належачых да апекі або папячыцельства.

Назначыўшы апякуна, орган апекі неадкладна паведамляе яго і лыдае яму адпаведнае пасьведчаньне, адначасова з гэтым у памяшканьні органу апекі вывешваецца абвестка. З гэтага апошняга моманту кічыцца месячны тэрмін на падачу скаргі зацікаўленымі асобамі.

Апякун у выпадках старасьці, хворасьці і інш. (гл. арт. 108 Кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы) можа ў 2-х тыднёвы тэрмін прасіць аб звальненьні.

Пасьля назначэньня апякун павінен прыняць апеку, інакш ён адказвае за зробленую з прычыны няпрыняцьця апекі, матар'яльную шкоду.

Ніякай платы апякун не атрымоўвае, але орган апекі можа даць яму плату, калі маемасьць падапечнага дае даход.

Закон прадугледжвае і такі выпадак, калі ў падапечнага няма зусім маемасьці, і дае органу апекі права падняць перад адпаведным органам сацыяльнай забясьпекі хадайніцтва аб выдачы апякуну сродкаў на ўтрыманьне падапечнага.

## Правы і абавязкі па апецы і папячыцельству.

Асоба, назначаная апякуном або папячыцелем, павінна прыняць падапечную маемасьць паводле інвэнтару або опісу, які складаецца органам апекі. Адзін экз. опісу аддаецца апякуну.

Апякунскія абавязкі складаюцца:

а) з кіраваньня маемасьцю падапечнага і

б) з клопатаў аб асобе падапечнага, як напрыклад, аб яго выхаваньні, фізычным разьвіцьці, лячэньні, ахове і г. д.

Апякун непаўналетняга павінен зрабіць усе належачыя ад яго захады аб тым, каб падапечны атрымаў выстарчаючае выхаваньне і асьвету для падрыхтоўкі яго да жыцьця і да грамадзка-карыснай дзейнасьці. Ён мае права патрабаваць у іскавым парадку непаўналетняга падапечнага ад кожнай асобы, якая затрымлівае падапечнага ў сябе. Ён можа таксама аддаваць непаўналетняга падапечнага на гадаваньне, выхаваньне або навучаньне (з дазволу органу апекі).

Апякун над душэўна-хворым або слабым на розум павінен клапаціцца аб яго лячэньні і аб утрыманьні на ўмовах, адпавядаючых стану яго здароўя.

Апякун мае права рабіць усе патрэбныя дзеяньні і ўгоды ад імя падапечнага, за выключэньнем актаў па дарэньні і абавязнасьці парукаю.

Ня можа таксама апякун рабіць ніякіх угод з самымі падапечнымі.

Дазвол органу апекі патрабуецца для ўчыненьня толькі наступных дзеяньняў і ўгод:

а) заключэньне ад імя падапечнага арэндных дагавораў на тэрмін больш 1 году;

б) будаваньне новага прадпрыемства або зачыненьне і скарачэньне існуючага;

в) выдача вэксалёў і іншых даўгавых абавязнасьцяй, прыняцьце і адмаўленьне ад спадчыны, падзел па згодзе маемасьці;

г) заключэньне дагавароў таварыства;

д) выдача агульнай даверанасьці.

Угоды апякуна, не дазволеныя законам або зробленыя ў вышэй паказаных выпадках без дазволу апякунскага органу неправадзейны.

Папячыцель сам ня робіць угод ад імя асобы, над якой ён назначаны папячыцелем, але дае згоды на гэтыя ўгоды.

Калі ў падапечнага маюцца грошы або каштоўныя паперы, орган апекі павінен паказаць апякуну ці папячыцелю тую крэдытную ўстанову, у якой іх трэба хаваць.

Кожны год апякуны і папячыцелі павінны падаваць у органы апекі справаздачу. Пасьля спыненьня апекі або папячыцельства ў органы апекі (на працягу 6 тыдняў) падаецца агульны даклад аб вядзеньні справы.

Орган апекі павінен правяраць справаздачы, прымаць скаргі зацікаўленых асоб на дзеяньні апякуноў і папячыцеляў, ажыцьцяўляць нагляд за імі. Пры гэтым за злоўжываньні або нядбайнасьць у вядзеньні апекі орган апекі можа звольніць апякуна.

Калі апякуны парушаць свае абавязкі, то органы апекі могуць даваць ім належныя загады.

У тых выпадках, калі дзеяньнямі апякуна падапечнаму зроблены маемасныя страты, сам падапечны пасьля спыненьня апекі, а таксама орган апекі мае права патрабаваць ад апякуна сплаты гэтых страт.

**Б. Ватацы.**

24-га лютага 1927 г.

---

## 15. Ажыўленьне Саветаў.

*(У парадку абмеркаваньня).*

„Задачы насаджэньня савецкай дэмакратыі і ажыўленьне Саветаў павінны даць нам магчымасьць перарабіць наш дзяржаўны апарат, зьвязаць яго з народнымі масамі, зрабіць яго здаровым і чэсным, простым і танным для таго, каб стварыць умовы, палягчаючыя пераход ад грамады з дыктатурай пралетарыяту ў грамаду безьдзяржаўную камуністычную..

Па старому цяпер кіраваць нельга, бо палітычная актыўнасьць сялянства паднялася, і патрэбна, каб гэта актыўнасьць вылілася ў форму савецкую, каб яна ішла праз саветы, а ня міма саветаў.

Кіруе той, хто ажыўляе саветы і стварае сялянскі актыў навокал партыі ў вёсцы“. (СТАЛІН).

Два гады КП(б)Б праводзіць палітыку ажыўленьня саветаў, палітыку шырокага ўцягненьня сялянскіх мас у справу савецкага будаўніцтва, разумеючы, што „Саветы ў вёсцы—асноўная па свайму цяперашняму палітычнаму значэньню, прама—адзіная масавая арганізацыя сялянства (Молатаў)“—могуць выканаць з посьпехам стаячыя перад імі задачы пры ўмовах уцягненьня ў іх работу шырокіх мас сялянства, у першую чаргу—перадавых актыўных беднякоў, серадвякоў і працоўную інтэлігэнцыю.

Аднэй з асноўных форм уцягненьня сялянскага актыву ў работу саветаў зьяўляецца арганізацыя камісій пры ўсіх сельскіх і местачковых саветах. Праз ужываньне гэтай формы работы саветы змогуць больш шчыльна зьвязацца з масамі працоўных, прыблізіцца да гэтых мас, зрабіць работу саветаў зразумелай і блізкай.

Паўтарагадовы вопыт існаваньня ўзаконеных пастановаю ЦВК і СНК БССР за 23 кастрычніка 1925 году пры ўсіх сельскіх і местачковых саветах камісій: сельска-гаспадарчай, культасьветнай, фінансава-падатковай, мясцовай гаспадаркі і дабрабыту і гандлёва-каапэратыўнай, арганізаваных, як абавязковыя, дае магчымасьць, на падставе маючыхся матар'ялаў, зрабіць шэраг вывадаў аб працы гэтых камісій і абмеркаваць пытаньне аб далейшых мерапрыемствах па ажыўленьню іх працы. Гэта патрэбна яшчэ і таму, што скончыўшаяся перавыбарчая кампанія саветаў у вёсцы, якая прайшла пры

вялікай актыўнасьці ўсіх слаёў выбаршчыкаў і асабліва бядняцка-серадняцкага блёку, ставіць перад партыйнымі і савецкімі органамі задачу замацаваньня гэтай актыўнасьці ў штодзённай працы нізавых органаў савецкай улады, а значыць—і ў ажыўленьні працы камісій.

Фактычна, камісіі пры сельскіх і местачковых саветах былі арганізацыйна аформлены толькі ў пачатку 1926 году, г. з., пасьля скančэньня перавыбараў саветаў у вёсцы. З першага студзеня па першае жніўня 1926 году, прыблізна 6.000 камісій, арганізаваных, пры ўсіх сельскіх і местачковых саветах, з агульным лікам 28.007 членаў апрацавалі і ўнесьлі на зацьверджаньне саветаў 9.958 асобных пытаньняў, што дае на кожную камісію ў сярэднім, на працягу 7 месяцаў 1—2 пытаньні. Калі прыняць пад увагу, што значны процант разьвязаных пытаньняў прыпадае на арганізацыйныя пытаньні, то будзе відавочна яшчэ слабая і невыстарчальная работа камісій. Аб тым, што камісіі невыстарчальна разгарнулі работу, гавораць, як акруговыя так і раённыя выканаўчыя камітэты, напрыклад, на пленуме Мазырскагага акруговага выканаўчага камітэту ў лістападзе 1926 году ў рэзалюцыі па ажыўленьні саветаў было адзначана, што камісіі пры сельскіх саветах у большасьці працуюць яшчэ кепска, на пленуме Бабруйскага акруговага выканаўчага камітэту 22—24 жніўня 1926 году па справаздачнаму дакладу Парыцкага Раённага Выканаўчага Камітэту была адзначана непрацаздольнасьць камісій пры сельскіх саветах; на пленуме Дрысенскага раённага выканаўчага камітэту Полацкай акругі па пытаньні аб ажыўленьні работы камісій пры сельсаветах таксама адзначана слабасьць работы большасьці камісій.

Такім чынам, прыняўшы пад увагу нязначную колькасьць разьвязаных камісіямі пытаньняў, а таксама пераважнасьць пытаньняў арганізацыйнага характару, трэба зрабіць вывад, што значны процант камісій быў зусім непрацаздольны і яны лічыліся толькі на паперы, адсюль і актыў у 28.000 чал. працаваў толькі часткова і значная частка яго зьяўлялася толькі „мёртвымі душамі“.

Асноўнымі прычынамі слабай работы камісій, трэба адзначыць:

а) не заўсёды правільнае арганізацыйнае афармленьне камісій,

б) слабае кіраваньне работай камісій з боку сельскіх саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў,

в) невыстарчальнае ўцягненьне ў камісіі сялянскага актыву,

г) вельмі частае неразуменьне на мясцох аб тым, каго лічыць актывам,

д) адсутнасьць плянавасьці ў працы камісій,

е) хутарское расьсяленьне сялянства, што абцяжарвае вядзеньне грамадзкай працы,

ж) у некаторых выпадках—пашырэньне сельскіх саветаў.

Ня трэба таксама забываць аб варожых адносінах з боку антысавецкіх элемэнтаў да асоб, якія прымаюць актыўны ўдзел у грамадзкай працы.

Усё-ж аналіз работы камісій сьведчыць, што пры належным кіраваньні гэтымі камісіямі з боку сельскіх саветаў і Раённых Выканаўчых Камітэтаў, апошнія павінны зьявіцца лепшымі памочнікамі гэтых органаў. Маецца цэлы шэраг прыкладаў, калі пытаньні, якія закранаюць інтарэсы шырокіх мас сялянства, самым дзелавым парадкам прапрацоўваюцца камісіямі і толькі пасьля гэтай прапрацоўкі сельскімі саветамі прымаецца тое ці іншае рашэньне (рамонт

мастоў і дарог, каапэраваньне насяленьня, ліквідацыя няпісьменнасьці і г. д.).

Усё гэта гаворыць аб патрэбе самых сур'ёзных адносін да далейшай работы камісій. Гэта ў выстарчальнай ступені разумеюць і працаўнікі раённых выканаўчых камітэтаў, якія шукаюць больш канкрэтных шляхоў да ажыўленьня работы камісій, выходзячы з практычнага вопыту. Напрыклад, пашыраны пленум Дрысенскага Раённага Выканаўчага Камітэту з удзелам працаўнікоў сельскіх саветаў, лічыць, што ўтварэньне камісій рабілася без належнага вывучэньня на мясцох у сельскіх саветах пытаньня, якія камісіі будуць жыцьцёвы ва ўмовах даннага сельскага савету, каб дарэмна не распыляць сіл. Пленум Глускага Раённага Выканаўчага Камітэту Бабруйскай акругі таксама лічыць патрэбным узяць курс на меншы лік камісій з тым, каб дабіцца працаздольнасьці іх. Пастаноўка пытаньня „лепш менш, ды лепш"—правільна і мэтазгодна, бо пытаньне ідзе аб ажыўленьні саветаў праз шырокую грамадзкасьць, а таму трэба даць мясцом права, застаючыся на грунце ўзаконеных палажэньнем камісій, утвараць іх пры наліччы кадру працаўнікоў і актыву, а таксама канкрэтных умоў для работы тэй ці іншай камісіі. Апрача таго, трэба больш канкрэтна дэталізаваць палажэньне аб кожнай камісіі ў паасобку, круг пытаньняў, якія падлягаюць кампэтэнцыі камісіі і г. д. з прычыны таго, што на мясцох па гэтаму пытаньню няма поўнай яснасьці, аб чым можа сьведчыць наступная пастанова пленуму 1-га Бабруйскага Раённага Выканаўчага Камітэту, прынятая па дакладу Капусьцінскага Сельсавету: „Зьвярнуць належную увагу на працу камісіі па дабрабыту, даручыўшы ёй зрабіць неадкладна рамонт мастоў і дарог мясцовага значэньня, абгарадзіць студні і павесіць каля іх грамадзкія вёдры". Думаецца, што пасьля такой дырэктывы ў камісіях мала знойдзецца ахвотнікаў працаваць, бо камісіі разглядаюцца ня як арганізатары вясковай грамадзкасьці, а як выканаўцы адміністрацыйных пастаноў.

Пытаньням кіраваньня работаю камісій, правільнай арганізацыі і афармленьню іх трэба зьвярнуць больш увагі, а асноўнае, што трэба падкрэсьліць—гэта лепшая апрацоўка пытаньня аб актыве, аб практычнай працы з ім, аб канкрэтных шляхох уцягненьня яго ў працу саветаў, гэта значыць—лепш уявіць і правільна праводзіць у жыцьцё рашэньні X-га Зьезду КП(б)Б па гэтым пытаньні, бо выпадкі неразуменьня і няўменьня правільна праводзіць рашэньні партыі ёсьць. Напрыклад, Слабадзкі Раённы Выканаўчы Камітэт Мазырскай Акругі ў сакавіку м-цы 1926 г. разаслаў цыркуляр па сельскіх саветах з прапановай 28 сакавіка зьявіцца старшыням сельсаветаў і Камітэтаў Таварыстваў Сялянскае Ўзаемадапамогі і сэкратаром сельскіх саветаў на пашыраны пленум Раённага Выканаўчага Камітэту і апрача таго, прапанаваў вылучыць на гэты пленум ад кожнага сельскага савету па 5 чалавек актывістаў. 30 мая 1926 г. гэты-ж Раённы Выканаўчы Камітэт разаслаў цыркуляр сельскім саветам з прапановай старшыням сельсаветаў, сэкратаром і старшыням Камітэтаў Таварыстваў Сялянскае Ўзаемадапамогі зьявіцца на пашыраны пленум Раённага Выканаўчага Камітэту 10-га чэрвеня 1926 году і, апрача таго, вылучыць ад кожнага сельскага савету па 10 чалавек актывістаў.

У сельскіх саветах гэта сыстэма ўцягненьня актыву ў працу практычна ставіцца так: 1 чэрвеня 1926 г. на пленуме Тварычаўскага сельскага савету адным з пытаньняў паветкі дня стаяла пытаньне аб выбарах 10 актывістаў на пленум Раённага Выканаў-

чага Камітэту. Пленум сельскага савету па гэтаму пытаньню пастанавіў: „зрабіць выбары актывістаў не на пленуме сельскага савету, а ў кожным паселішчы асобна“, і 3 чэрвеня на агульных сходах Тварычаўскага сельскага савету рабіліся выбары актывістаў на пашыраны пленум Раённага Выканаўчага Камітэту. Бязумоўна, што селянін, абраны „актывістам“ і для адбыцьця гэтай павіннасьці прымушаны ісьці на пленум раённага выканаўчага камітэту за 30 і больш вёрст, наўрад ці пойдзе другі раз на сход, ня толькі што пажадае працаваць у камісіі сельсавету.

У далейшым трэба, каб, як правіла, усе пытаньні гаспадарчага і культурнага будаўніцтва вёскі: земляўпарадкаваньне, мэліярацыя, каапэраваньне насяленьня, дабрабыт, санітарыя, пажарная ахова, ліквідацыя няпісьменнасьці, школьнае будаўніцтва і г. д., як закранаючыя інтарэсы шырокіх сялянскіх мас, прапрацоўваліся-б наперад адпаведнымі камісіямі пры сельскіх і местачковых саветах.

Нельга не адзначыць поўнай ці частковай незацікаўленасьці працаю камісій пры сельскіх і местачкавых саветах з боку цэнтральных устаноў і арганізацый. Возьмем да прыкладу хоць-бы культурнаасьветную камісію, ці с.-г. камісію. На гэтыя камісіі ўскладзены надзвычайна важныя задачы. Гэтыя камісіі пры належным кіраваньні могуць стаць адным з лепшых правадыроў усіх мерапрыемстваў камуністычнай партыі і савецкай улады ў вёсцы. Між тым, ні адзін камісарыят і ні адна цэнтральная ўстанова не зварачалі і не зварачаюць належнай увагі на працу гэтых камісій. Камісарыяты і цэнтральныя ўстановы, па ўзгадненьні з акруговымі выканаўчымі камітэтамі, павінны зараз-жа пачаць ўсебакова і дэтальна вывучаць арганізацыю і работу камісій і на падставе здабытага вопыту распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы, якія могуць усебакова дапамагаць далейшаму пашырэньню і ўзмацненьню гэтых масавых савецкіх ячэек у вёсцы. Усе закранутыя моманты аб працы камісій пры сельскіх і местачкавых саветах патрабуюць шырокага абмеркаваньня. Вельмі пажадана, і нават патрэбна, каб па гэтым пытаньні выказаліся працаўнікі цэнтральных, акруговых, раённых, сельскіх і местачковых устаноў і арганізацый з пункту погляду практычных прапаноў па гэтым пытаньні.

**П. Новікаў.**

4 сакавіка 1927 г.

---

## 16. Аб спагнаньнях з маемасьці сялянскага двара за даўгі паасобных яго членаў.

*(У парадку абмеркаваньня).*

Інтарэсы разьвіцьця сельскае гаспадаркі і ўтварэньне для гэтага патрэбных умоў упарта патрабуюць узмоцненай абароны сялянскага двара пры спагнаньнях з яго маемасьці. З гэтаю мэтаю савецкім законадаўствам і быў выданы цэлы шэраг законаў, якія сьведчаць аб вышэйпамянёным. Так, паводле арт. 271 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу, спагнаньне ня можа рабіцца з неабходных прылад сельскае гаспадаркі, з аднэй каровы, 1 каня з неабходным на 3 месяцы кормам, з насеньня ў колькасьці, патрэбнай для маючага быць пасеву апрацоўваемай даўжнікам зямлі і з нязьнятага ўраджаю.

Апроч гэтага пры спагнаньнях з працоўных земляробчых гаспадарак (двароў) спагнаньне ня можа рабіцца з жылога дому з

неабходнымі будынкамі, фактычна абслугоўваючымі паказаную гаспадарку. Тую-ж самую мэту разьвіцьця сельскае гаспадаркі і папярэджаньня сялянскага двара ад зруйнаваньня мае на ўвазе 69 арт. Зямельнага Кодэксу, паводле якога маемасьць двара ня можа быць прысуджана на ўплату за даўгі паасобных членаў двара (у тым ліку і гаспадара), зробленыя імі для сваіх асабістых патрэб.

З прычыны гэтага трэба адзначыць, што пытаньне, закранутае т. Рэйшах-Рытам у сваім артыкуле „Закон, які на практыцы ніколі ня ўжываецца“, зьмешчаным у № 4 (29) Бюлетэню Савету Народных Камісараў БССР за гэты год, зьяўляецца вельмі важным і цікавым.

Бясспрэчна, т. Рэйшах-Рыт правільна даказвае, што 69 артыкул Зямельнага Кодэксу „набывае асабліваe значэньне і ператварэньне яго з мёртвай літары закону ў артыкул, сапраўды ахоўваючы сялянскую гаспадарку, настойліва дыктуецца самім жыцьцём“.

Як дабіцца таго, каб 69 арт. Зямельнага Кодэксу сапраўды быў ня „мёртвым“ артыкулам на практыцы пры выкананьні рашэньняў аб спагнаньні за даўгі паасобных членаў двара, зробленыя імі для сваіх асабістых патрэб, як выконваць патрабаваньні арт. 69 Зямельнага Кодэксу—вось пытаньні, па якіх я ў гэтым артыкуле хачу выказаць некаторые свае меркаваньні.

Паводле растлумачэньня Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР, арт. 69 Зямельнага Кодэксу за 13 жніўня 1924 г. (З. З. БССР за 1924 г· № 15) пры спагнаньнях з маемасьці сялянскага двара даўгоў паасобных членаў яго, якія ўзьнікаюць з яго асабістых або маемасных адносін, спагнаньне гэтае абмяжоўваецца толькі належачай члену двара доляй у агульнай гаспадарцы.

Тав. Рэйшах-Рыт у сваім, памянёным вышэй, артыкуле паказвае на няяснасьць як арт. 69 Зям. Кодэксу, так і абежніку, які растлумачвае гэты артыкул, бо сэнс іх, па яго погляду, выяўляецца ў тым, „што пры спагнаньні з маемасьці двара за даўгі паасобных яго членаў належыць зрабіць падзел двара і спагнаньне зьвярнуць на маемасьць, якая падае на долю даўжніка“. Выходзячы з такое пасылкі, тав. Рэйшах-Рыт прыходзіць да вываду, што „вось тут-та і ёсьць корань усіх цяжкасьцяй па ўжываньні арт. 69, з прычыны таго, што не паказана, каму іменна належыць зрабіць падзел двара, праўдзівей—выдзел з яго даўжніка: суду або асобе, робячай спагнаньне“. Далей, выходзячы з тае самае пасылкі тав. Рэйшах-Рыт пытае: „хто-ж у такім выпадку павінен узбуджаць хадайніцтва аб выдзеле—спагнаньнік, даўжнік, або іншыя члены двара“.

Усе гэтыя пытаньні і няяснасьці, якія робіць і адзначае тав. Рэйшах-Рыт, павінны адыйсьці з прычыны таго, што сама яго пасылка аб тым, што пры сысканьні з маемасьці двара даўгоў паасобных яго членаў належыць зрабіць падзел двара, зьяўляецца няправільнай, бо ў гэтым няма ніякае патрэбы. Судовы выканаўца пры сысканьні з маемасьці двара доўгу паасобнага члена яго, які апошні зрабіў для сваіх асабістых патрэб, павінен толькі вызначыць яго долю незямельнае маемасьці агульнага карыстаньня двара, якая належыла-б яму, каб быў зроблены падзел. А гэта зрабіць няма ніякае труднасьці, трэба толькі мець на ўвазе арт. 81 Зям. Код., паводле якога маемасныя долі членаў двара, якія дзеляцца, вызначаецца па ліку яго працоўных адзінак. Пры вылічэньні-ж працоўных адзінак належыць, на падставе абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства за 4 красавіка 1925 г. № 17 „аб ўстанаўленьні гранічных норм для паасобных гаспадарак сялянскага землякарыстаньня“, кіравацца наступнымі

каэфіцыентамі: мужчыны і жанчыны, маючыя 16 год і больш, лічацца кожны за адну працоўную адзінку, падлеткі (мужчыны і жанчыны) ад 12 да 15 год—за палову працоўнай адзінкі, а дзеці да 12 год—за 1/4 працоўнай адзінкі.

Судовы выканаўца, вызначыўшы такім парадкам долю маемасьці паасобнага члена двара, можа спагнаць з маемасьці двара толькі ў разьмеры гэтае долі.

Для большай яскравасьці лічу ня лішнім адзначыць наступны канкрэтны прыклад.

Згодна ўвайшоўшага ў законную сілу рашэньня народнага суду, член сялянскага двара гр-н Белавусавых—Іван Белавусаў павінен сплаціць грамадзяніну Пракопчыку 200 р. за даўгі, зробленыя ім для сваіх асабістых патрэб. Скажам; што незямельная маемасьць агульнага карыстаньня двара гр-н Белавусавых: будынкі, сельска-гаспадарчы інвэнтар і г. д. ацэнена ў 600 р.; у двары Белавусавых разам з Іванам Белавусавым 10 працоўных адзінак. Значыць, у гэтым выпадку судовы выканаўца можа спагнаць з маемасьці агульнага карыстаньня двара толькі ў разьмеры 60 р. (600 р. : 10).

Тут лічу патрэбным адзначыць, што спагнаньне з належачай аднаму члену двара долі маемасьці само па сабе не зьяўляецца падставаю для пазбаўленьня яго членства ў двары, але можа паслужыць прычынаю для падачы патрабаваньня з боку іншых членаў двара аб падзеле, пры якім, бязумоўна, адпаведным чынам павінна быць зьменшана доля маемасьці паказанага члена двара. Падстаў да пазбаўленьня членства ў двары няма, з прычыны таго, што паводле арт. 65 Зям. Код. член двара мае права ня толькі на незямельную маемасьць двара, але і на зямлю апошняга.

**Д. Гардман.**

---

## 17. Дасягненьні і недахваты ў камунальнай гаспадарцы Калінінскай акругі.

*(Па матар'ялах абсьледаваньня Кіраўніцтвам Камунальнай Гаспадаркі Н. К. Унутраных Спраў БССР).*

Першае, што трэба адзначыць у выніку абсьледаваньня Калінінскага Акруговага Аддзелу Камунальнае Гаспадаркі і Раённай Камунальна-дарожнай Часткі Мсьціслаўскага Райвыканкому—гэта значны рост камунальнага жылішчнага і дарожнага будаўніцтва.

Так, пабудавана моцная, у мясцовых умовах, электрастанцыя ў г. Клімавічах, лесапільны завод, паравы млын, гарадзкая лазьня і 3 аднапаверхавых дамы. На ўсё гэтае будаўніцтва выдаткавана каля 263 т. р., што дае рост супроць 1924/25 г. больш як на 100%. Такія дасягненьні мы маем у жылішчна-камунальным будаўніцтве.

У галіне дарожнага будаўніцтва вяліся работы па рамонту пад'ездных шляхоў, па выпраўленьні палатна дарог на магістральных шляхох і г. д. Пабудавана 77 мастоў даўжынёю ў 521,7 паг. мэтр. Тут мы маем рост супроць мінулага году на 25%. Адрамантавана 935,5 паг. мэтр. мастоў (рост на 183%), зроблены земляныя работы ёмістасьцю ў 61.150 куб. мэтр. (рост на 402%) і г. д.

У прыватнасьці трэба адзначыць забрукаваньне палатна на 12 тыс. кв. м. і тэхнічнае абсьледаваньне дарог на працягу 366 кілёмэт-

раў, пры гэтым трэба адзначыць, што ў 1924/25 годзе такіх абсьледаваньняў зусім не рабілася.

Усе гэтыя работы каштавалі 116 тыс. р. Гэта роўна 100% пляну дарожнага будаўніцтва на 1925/26 г., а пры параўнаньні з коштам работ 1924/25 г. маем рост на 327%.

Трэба таксама адзначыць здавальняючую сувязь і ўзмацненьне пажарных арганізацый і г. д.

Як бачым, ёсьць значныя дасягненьні, але-ж разам з імі трэба адзначыць і некаторыя недахваты ў рабоце Калінінскага Акруговага Камунальнага Аддзелу. Гэта будзе яскравей відаць, калі падрабязьней затрымацца на асобных відах камунальнага будаўніцтва.

Што датычыцца грамадзянскага і камунальнага будаўніцтва, то трэба адзначыць, што акруговы аддзел камунальнай гаспадаркі фактычна кіруе толькі будаўніцтвам гораду Клімавіч і вельмі мала зьвяртае ўвагі на акруговае будаўніцтва. Так, большасьць тых праэктаў будынкаў, якія складаюцца раённымі выканаўчымі камітэтамі, акруговым аддзелам камунальнай гаспадаркі не разглядаюцца, а некаторыя раённыя выканаўчыя камітэты іх зусім не падаюць у акруговы аддзел камунальнай гаспадаркі.

Апрача гэтага, трэба адзначыць, што па Калінінскай акрузе наглядалася несваячаснае ўтварэньне будаўнічых работ. Гэта павялічвала кошт і зьніжала якасьць работ. Так, напрыклад, пабудоўка лазьні ў г. Клімавічах пачалася толькі 23 верасьня 1926 г. і з гэтае прычыны вялася ў хуткім парадку, але ўсё-ж такі была захоплена марозам.

На будаўнічыя работы разам з цэглай, атрыманай з Воршы, скарыстоўваецца таксама і цэгла мясцовага вырабу, пры гэтым якасьць апошняй ня зусім здавальняючая. Для сталярных работ скарыстоўваецца сыры лес.

Недахват цэглы належнай якасьці выклікае патрэбу пабудоўкі заводу па вырабу сілікатнай цэглы.

Нарэшце трэба адзначыць, што няма нагляду за прыватным будаўніцтвам з боку акруговага аддзелу камунальнае гаспадаркі як у самым акруговым горадзе, так і ў раёнах.

Цяпер трэба закрануць дарожнае будаўніцтва, якое займае вельмі важнае месца ў камунальным будаўніцтве акругі.

З паасобных работ можна адзначыць забрукоўку пад'езднага шляху з г. Клімавічы на ст. Клімавічы на працягу 1,6 клм. У частцы, прылягаючай да гораду, ўмацаваны адкосы дамб да маючагася тут мосту, але больш рацыянальна было-б перабудаваць мост некалькі падняўшы яго.

На пад'ездным шляху г. Крычаў—станцыя Крычаў, даўжынёю у 1,1 клм., работы праводзяцца і цяпер. Дарога праведзена на прамой ад дарогі Крычаў-Расна і ідзе пераважна насыпам, вышынёю да 11,5 мэтр. па нізіне.

Гэта работа патрэбна для сувязі мястэчка Крычаў са станцыяй —напрамак выбраны ўдалы і профіль лёгкі. Але тут трэба адзначыць, што пясок для дарогі дастаўляецца па чыгунцы і каштуе 1 р. 20 к. за 1 куб. мэтр, а ў 2 клм. ад работ знаходзяцца залежы гравію. Было-б мэтазгодным ужыць для пакрыцьця праезжай часткі дарогі гэты гравій. Гэта дало-б больш моцнае пакрыцьцё дарогі.

Паміж іншым, трэба адзначыць, што ў Калінінскай акрузе зусім ня ўжываюцца бэтонныя трубы, а гэта патрэбна практыкаваць, асабліва па пад'ездных шляхох.

Дарога Крычаў-Мсьціслаў даўжынёю ў 38 клм. выпраўлялася

ў 1925 г. з боку Мсьціслаўля і ў 1926 г. з боку Крычава. Блізасьць ракі Сожу і значная гарыстасьць мясцовасьці абцяжарвае тэхнічныя работы, што выяўляецца ў самаўтварэньні равоў на палатне дарогі, размыве канаў і падмыве мастоў.

Яскравай супраціўнасьцю з параўнальна добрым становішчам дарогі зьяўляецца млынавы мост праз раку Чорная-Натопа ў сяле Ануфрыеве, даўжынёю ў 20 паг. мэтр., які па сваёй зношанасьці і канструкцыі зьяўляецца зусім нягодным для дарогі акруговага значэньня.

Можна адзначыць з асобных відаў дарожнага будаўніцтва мост праз р. Сутокі даўжынёю ў 15 паг. мэтр. з дамбамі даўжынёю ў 924 паг. мэтр., мост праз раку Белая-Натопа даўжынёю ў 45,5 паг. мэтр., з дамбамі і выемкай даўжынёю у 1.183 паг. мэтр. і з пабочнымі каналамі ў 639 паг. мэтр.

Гліністы грунт, глыбокая выемка з адкосамі, касагорная мясцовасьць, асадка насыпу вельмі дрэнна адбіваюцца на гэтых работах, а раньні пачатак зімы яшчэ пагоршыў становішча гэтых дарог, тым больш, што па іх прышлося адчыніць рух. У цяперашні час робіцца адзярноўка адкосаў.

На дарозе Мсьціслаў-Шамава каля ўрочышча Цялятнікі ёсьць стары мост праз роў даўжынёю ў 4 паг. мэтр. Мураваныя апоры мосту вельмі падмыты і падмурак месцамі вісіць.

Акруговы Аддзел Камунальнай Гаспадаркі мяркуе перабудаваць гэты мост з каменнага ў драўляны. Але, лепш было-б скарыстаць стары каменны матар‘ял для пабудоўкі новага каменнага масту з большай адтулінай.

Каля вёскі Прудок Крычаўскім Раённым Выканаўчым Камітэтам пабудаваны 3 малых масты і рамантуецца мост праз раку Прудок ў 20 паг. мэтр. Пабудаваныя масты зусім не задавальняюць патрэб: малая вышыня, з прычыны чаго вада і ў цяперашні час падымаецца да насьцілу.

Не адзначаючы кепскага становішча большасьці дарог акругі (дарога Крычаў-Клімавічы—22 клм. не рамантавалася зусім), мост праз раку Віхру ў гор. Мсьціслаўлі, які патрабуе дадатковага рамонту, трэба адзначыць, што такія адносіны да дарожнага будаўніцтва, асабліва на дарогах акруговага значэньня, бязумоўна недапушчальны. Па сельскаму дарожнаму будаўніцтву ў Акруговым Аддзеле Камунальнай Гаспадаркі маюцца зьвесткі толькі па 3 раёнах замест 10.

У Чэрыкаўскім раёне пабудавана 15 паг. мэтр. мастоў, выпраўлена 37 п. м. мастоў і 95 паг. м. грэбель. Такое нязначнае разгортваньне работ па прыцягненьню сельскага насяленьня ў дарожнае будаўніцтва зьяўляецца зусім нязвычайным.

**Г. Рубінштэйн.**

---

## 18. Аб надыходзячай сельска-гаспадарчай кампаніі.

Асноўнаю задачаю савецкае ўлады ў галіне сельска-гаспадарчай палітыкі зьяўляецца максымальнае разьвіцьцё і ўзмацненьне сельскае гаспадаркі. Аднэй з частак гэтай задачы зьяўляецца правядзеньне сельска-гаспадарчае кампаніі.

2 лютага г. г. на пасяджэньні Савету Народных Камісараў БССР быў выслуханы даклад Народнага Камісара Земляробства аб падрыхтоўцы вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі 1927 г. ў БССР.

Савет Народных Камісараў прызнаў патрэбным зьвярнуць асаблівую ўвагу пры правядзеньні вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі на пашырэньне пасеваў кармавых траў, караньплодаў, тэхнічных культур (лёну, канапель) і лубіну.

Паводле пляну Народнага Камісарыяту Земляробства пасевы кармавых траў (у 10 акругах БССР) у гэтым годзе будуць павялічаны з 127,5 тысяч дзес. мінулага году да 156 тысяч дзес., і пасевы бульбы—в 310,6 тысяч дзес. да 325 тысяч дзес., тэхнічныя культуры —з 118,2 тысяч дзес. да 127 тысяч дзес., пасевы лубіну—з 62,6 тыс. дзес. да 84 тыс. дзес.

Але пашырэньне пасеваў кармавых траў і разьвіцьцё тэхнічных культур магчыма будзе толькі пры ўмове плянамернага і своечаснага забесьпячэньня насяленьня насеньнем, угнаеньнем і інш.

Для гэтай мэты ў гэтым годзе мяркуецца загатовіць насеньня для 12 акруг БССР на суму 1.574.090 р., угнаеньня на суму 623.608 руб., машын, сельска-гаспадарчых прылад і мэталю на 6.817.852 р., а ўсяго мяркуецца затраціць на загатоўку сродкаў вытворчасьці (насеньне, угнаеньне, мышыны) для задаваленьня імі насяленьня ў сельска-гаспадарчую кампанію 1927 г.—9.823.130 р., што ў параўнаньні з мінулым годам дае павялічэньне на 35 проц.

У паасобку мяркуецца загатовіць 460 тыс. пуд. насеннага аўса і 12 тыс. сэлекцыйнага, 50 тыс. пуд. ячменю, 45 тыс. пуд. лубіну, 60 тыс. п. вікі, 29 тыс. п. канюшыны, 9 тыс. п. лёну, 15 тысяч пуд сэрадэлы і г. д.

З машын галоўным чынам будуць завезены плугі, якіх мяркуецца загатовіць каля 80.000 штук.

Загатоўку насеннага матар'ялу будзе рабіць, галоўным чынам, Белсельсаюз, а таксама „Хлебапрадукт“ і „Цэнтраземсклад“.

У галіне агрыкультурных мерапрыемстваў мяркуецца перавесьці на шматпольны севазварот плошчу ў 160.000 дзес. (у мінулым годзе было пераведзена 117.000 дзес.), ачысьціць 2.100 тыс. пуд. насеньня (у мінулым годзе—1.836 тыс. пуд.), пратруціць 420 тыс. пуд., арганізаваць 4.500 паказальных вучасткаў (у мінулым годзе было арганізавана 3.799), а таксама правесьці шэраг масавых заатэхнічных мерапрыемстваў, як: правядзеньне злучных кампаній, паказальнае кармленьне кароў, гадаваньне быкоў, арганізацыя рассаднікаў завадзкое жывёлы і пунктаў па пераапрацоўцы прадуктаў малочнае гаспадаркі.

Для пасьпешнага правядзеньня сельска-гаспадарчай кампаніі, Савет Народных Камісараў пастанавіў абавязаць загатоўшчыкаў, каб яны выконвалі плян загатовак у тэрміны, асабліва у адносінах да завозу і разьмеркаваньня насеньня. Насеньне павінна быць дастаўлена ў раёны да пачатку вясеньняга бездарожжа, у кожным разе не пазьней 1 сакавіка—для паўднёвых акруг і 15 сакавіка – для паўночных акруг.

У мінулым сельска-гаспадарчым годзе заўважаўся некаторы недарод зернавое ярыны і сенажацяй, асабліва ў наступных акругах: Магілёўскай, Калінінскай, Аршанскай, Віцебскай, што дрэнна адбілася на становішчы запасаў кармоў. З прычыны гэтага СНК прызнаў патрэбным правядзеньне спэцыяльных мерапрыемстваў па забесьпячэньні насяленьня грубымі і асабліва канцэнтраванымі кармамі, адпаведна з намечаным плянам Н. К. Земляробства, выдзеліўшы для гэтае мэты з капіталаў Беларускага Сельска-Гаспадарчага Банку, апроч раней выданых 200.000 руб., дадаткова 100.000 руб. і запра-

панаваў Управе Дзяржаўнага Страхаваньня выдзеліць для гэтае мэты да 300.000 руб.

Прызнана патрэбным рабіць і далей досьледы папярэдняга году да пашырэньня пасеваў бульбы ў раёнах заводаў па пераапрацоўцы бульбы, уцягваючы да гэтага мерапрыемства савецкія гаспадаркі з скарыстаньнем крэдытаў Беларускага Сельска-Гаспадарчага Банку і праводзячы гэтае мерапрыемства паводле спэцыяльных дагавораў з сялянствам.

Надаючы пытаньню аб арганізацыі забесьпячэньня сялянства БССР штучным угнаеньнем першачарговую важнасьць, СНК запрапанаваў Народнаму Камісарыяту Земляробства распрацаваць гэтае пытаньне ў агульным маштабе як у адносінах да запатрабаваньня БССР на штучнае ўгнаеньне, так і да спосабаў забесьпячэньня апошнім, з падлікам якасьці ўгнаеньня, якое выробляецца ў СССР і цэн на яго.

З прычыны невыстарчальнага абслугоўваньня беларускага рынку прадуктамі беларускага выробу прызнана патрэбным павялічыць удзел прамысловасьці БССР ў забесьпячэньні сельскай гаспадаркі машынамі, у першую чаргу арганізацыі „Метпром“, павялічыць выраб сячкарань і сартовак і пашырыць выраб малатарань, прыводаў, маючы на ўвазе, што выраб сячкарань саюзнаю прамысловасьцю зьяўляецца далёка невыстарчальным.

Бяручы пад увагу, што з надыходам вясны можна чакаць разьвіцьця заразных хвароб сельска-гаспадарчай жывёлы, прызнана патрэбным правесьці вэтэрынарна-санітарныя мерапрыемствы папераджальнага характару, дапамагаючы вэтэрынарна-санітарнаму аздараўленьню вёскі, а вэтэрынарнаму пэрсаналю даручана зрабіць ахоўваючыя прышчэпкі сельска-гаспадарчай жывёле ад заразных хвароб.

Для нармальнага правядзеньня сельска-гаспадарчай кампаніі прызнана патрэбным, каб выкананьне загатовак сродкаў вытворчасьці (насеньне, угнаеньне, машыны) было своечасна забясьпечана крэдытам. Для забесьпячэньня інтарэсаў бяднейшага насяленьня сродкамі вытворчасьці Беларускаму Сельска-Гаспадарчаму Банку разам з Н. К. Земляробства даручана распрацаваць і падаць у Эканамічную Нараду праэкт крэдытаваньня бяднейшага насяленьня на насеньне, сельска-гаспадарчыя машыны, прылады і ўгнаеньне на больш льготных умовах, у паасобку праз пашырэньне калектыўнага крэдытаваньня пасёлкаў, якія пераходзяць на шматпольле, на насеньне кармовых траў, на закупку машын і г. д.

СНК прызнаў патрэбным зрабіць усе захады аб больш поўным і плянавым задаваленьні патрэб калектыўных гаспадарак у сродках вытворчасьці, крэдыце, інструктарскай і тэхнічнай дапамозе ў пэрыяд правядзеньня сельска-гаспадарчай кампаніі, забесьпячаючы гэтым самым рост і ўзмацненьне сеткі калектыўных гаспадарак.

Бяручы пад увагу практыку мінулага году СНК пастанавіў абавязаць Беларускі Сельска-Гаспадарчы Банк разам з Беларускім Сельска-Гаспадарчым Саюзам зрабіць захады аб тым, каб мэтавыя крэдыты, якія адпушчаюцца на забесьпячэньне насяленьня сродкамі вытворчасьці асабліва на насеньне канюшыны і інш. кармовых траў скарыстоўваліся крэдытнымі ўстановамі на беспасрэднае прызначэньне і без скарачэньня доўгатэрміновых крэдытаў. З прычыны задоўжанасьці па выданых пазычках Беларускаму Сельска-Гаспадарчаму Банку даручана зрабіць захады аб атрыманьні пазычак, тэрмін якіх прапушчаны, з тым, каб іх можна было скарыстаць у бягучым годзе для новага крэдытаваньня насяленьня.

Усе мерапрыемствы, зьвязаныя з правядзеньнем сельска-гаспадарчай кампаніі бягучага году павінны быць скарыстаны для ўзмацненьня масавага вытворчага каапэраваньня насяленьня, асабліва ў форме ўзмацненьня і разьвіцьця спэцыяльных відаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі (малочных, насенных, машынных таварыстваў).

Знаходзячы адначасна процант (27,4) каапэраваных сялянскіх двароў па лініі сельска-гаспадарчай каапэрацыі невыстарчальным, СНК прызнаў патрэбным, каб Беларускі Сельска-Гаспадарчы Саюз разгарнуў працу па ўцягненьні насяленьня ў каапэрацыю да 35—40 проц. у бягучым сельска-гаспадарчым годзе.

Для больш пасьпешнага выкананьня задач сельска-гаспадарчай кампаніі бягучага году, Народны Камісарыят Земляробства, яго мясцовыя органы, акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты павінны правесьці шырокае азнаямленьне сялянства аб задачах сельска-гаспадарчай кампаніі, ходзе падрыхтоўчых работ і скарыстаць для гэтае мэты друк, зьезды, сходы і г. д. У работу па правядзеньню сельска-гаспадарчай кампаніі павінны быць уцягнуты савецкія гаспадаркі, хаты-чытальні, сельска-гаспадарчыя гурткі, школы і вясковы актыў.

**А. М.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**